# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 28 (1220) ГОД XXIV БЕЛАСТОК 15 ЛІПЕНЯ 1979 г. ЦАНА 1 зл.


ПОШУКІ І ЗДЗЯЙСНЕННІ




Беласточчына мае безліч верных любіцеляў мелодый сваіх усходніх суседзяў. Ці будуць гэта хрысціны, вяселле, уваходзіны ў новы дом, ці проста святочная бяседа — заўсёды пачуеце тут і старадаўнюю рускую баладу пра Сценьку Разіна, і гімн украінскага песняра Шаўчэнкі „Рэвэ тай стогнэ...", і палымяна-млявыя „Очи чёрные..." з пачатку нашага стагоддзя і мноства іншых песень, ад несмяротнай „Катюши" пачынаючы праз пералівістыя „Подмосковные вечера", „Сирень-черёмуху" ды „Київським вальсом" канчаючы. І, вядома, заўсёды і ўсюды спяваюць нашу родную „Люблю наш край, старонку гэту...", „Ой, Нёман, бацька наш Нёман...", дзесяткі тутэйшых народных песень. А ці ж могуць пакінуць гасціну вясёлыя бяседнікі без вядомай усім „Бывайце здаровы, жывіце багата..."?

Таму і не дзіва, што кожны фестываль савецкай песні ў Зялёнай Гуры ў нашым асяроддзі выклікае вялікае зацікаўленне. Апошні ж, што праходзіў больш месяца таму назад, парадаваў нас усіх асабліва вядомай беларускай жартоўнай песняй „Баба Еўка, дзед Тамаш..." у дасканалым выкананні беластоцкага вакальна-інструментальнага

Працяг на стар. 4




„Мэтай выхавання ёсць развітая і адукаваная, паўнацэнная, актыўная, чулая і па магчымасці творчая індывідуальнасць, якая ўсведамляе сабе штораз дакладней сваю ролю як члена грамадства і чалавецтва, а таксама адчуваючая патрэбу ідэйнага і культурнага супрацоўніцтва, бескарыслівага грамадскага служэння ў імя праўды і справядлівасці для дабра ўсіх працоўных". Так разумеў заданні народнай асветы выдатны польскі педагог і грамадскі дзеяч Уладзіслаў Спасоўскі. Гэтыя ідэі пранізалі ўсю ўрачыстасць у гонар 35-годдзя Педагагічнай ваяводскай бібліятэкі ў Беластоку, што адбылася 12 чэрвеня 1979 года. Яна складалася са спецыяльнай сесіі на тэму „Педагагічныя бібліятэкі ў пастаяннай адукацыі настаўнікаў" і акту прысваення імя У. Спасоўскага Педагагічнай ваяводскай бібліятэцы ў Беластоку.

## ІМЯ ВЫДАТНАГА ПЕДАГОГА

Урачыстасць адкрыў беластоцкі куратар асветы і выхавання **Э. Крынскі.** Прынялі ў ёй удзел віцэ-міністр асветы і выхавання ПНР **Р. Язерскі,** сакратар ВК ПАРП у Беластоку **Г. Пятроўская-Ольчак,** працаўнікі Міністэрства асветы і выхавання, Інстытута адукацыі настаўнікаў у Варшаве, беластоцкай куратарыі, педагагічных бібліятэк з розных ваяводстваў і Беласточчыны, Варшаўскага універсітэта, грамадскіх арганізацый. На рукі дырэктара бібліятэкі **Я. Зенюка** быў перададзены сакратаром Ваяводскага праўлення ТППР **М. Альшэўскай-Трахімяк** прызнаны юбіляру за заслугі ў пашырэнні ведаў аб СССР і ўмацаванні польска-савецкай дружбы Залаты значок ТППР, за дзейнасць для дабра маладога пакалення Галоўнае праўленне ТПД прызнала медаль доктара Ёрдана.

У часе прысваення імя У. Спасоўскага Педагагічнай ваяводскай бібліятэцы ў Беластоку Э. Крынскі напомніў прысутным жыццёвы і творчы шлях гэтага выдатнага чалавека, які, між іншым, паходзіў з Віцебшчыны, падкрэсліў яго велізарны ўклад у развіццё прагрэсіўнай педагагічнай думкі ў міжваеннай Польшчы, за што санацыйныя ўлады рэпрэсіравалі яго. Э. Крынскі зачытаў акт прысваення імя, падпісаны Міністрам асветы і выхавання ПНР. Урачыстае адкрыццё партрэта У. Спасоўскага ў галоўнай чытальнай зале бібліятэкі зрабіў Р. Язерскі, павіншаваў ён усіх працаўнікоў педагагічных і школьных бібліятэк Беласточчыны з такім высокім прызнаннем.

Дырэктар Педагагічнай ваяводскай бібліятэкі імя У. Спасоўскага ў Беластоку Я. Зенюк ад імя ўсіх працаўнікоў педагагічных і школьных бібліятэк Беласточчыны падзякаваў дзяржаўным установам і грамадскім арганізацыям за высокае ўшанаванне іх штодзённай працы і запэўніў, што і ў далейшым яны не будуць шкадаваць сваіх сіл у ажыццяўленні тых ідэалаў, якім служыў У. Спасоўскі.

У нашай краіне толькі Інстытут адукацыі настаўнікаў у Варшаве і Педагагічная ваяводская бібліятэка ў Беластоку ўдастоена імя Уладзіслава Спасоўскага. (мг)



*Мікалай Красько з Пасечнікаў Вялікіх.*



*У Мікалая Красько буслы селяцца ўжо даўно.*

## ШЧАСЛІВЫ ЧАЛАВЕК

Кажуць, што ў каго паселіцца бусел, той шчаслівы чалавек. На панадворку ў **Мікалая Красько,** які жыве на хутары ў Пасечніках Вялікіх, бусел селіцца ўжо даўно і сапраўды, як дагэтуль, шчасце не абмінае гэтага гаспадара.

Спецыялізуецца ён у гадоўлі пародзістых авечак, якімі запоўнены прасторны хлеў, ды стаяць яны яшчэ і ў іншых гаспадарчых будынках.

Вёска Пасечнікі Вялікія вылучаецца сваёй гаспадарнасцю ў Гайнаўскай гміне. Яна прызнана цяпер вёскай спецыялістаў, а Мікалай Красько першы тут пачаў спецыялізавацца ў жывёлагадоўлі.

Фотарэпартаж **Віктара Рудчыка**



*У такую спёку, як сёлета, нават авечка адчувае сябе лепш без свайго ваўнянага кажуха.*

## З БЕЛАРУСКАГА ДРУКУ

### СУСТРЭЧА З ПОЎНАЧЧУ

Група беларускіх турыстаў зрабіла паход па самай паўночнай частцы Палярнага Урала. Чатырнаццацідзённы маршрут дазволіў убачыць суровую снежную цішыню тундры, горныя ланцугі, азёры, рэкі Поўначы. Удзельнікі паходу зматлі пазнаёміцца з вандроўным жыццём і бытам аленяводаў і паляўнічых-ненцаў, рамантыкай цяжкіх будняў геолагаў і шахцёраў Запаляр'я. Частка маршруту ўпершыню пройдзена беларускімі турыстамі.

### САБРАЛІСЯ Ў ТАЙГУ

Экспедыцыя віцебскіх лесаўпарадкавальнікаў адправілася ў Бурацію. Беларускія спецыялісты ўлічаць запасы драўніны ў Прыбайкаллі, вызначаць лесасыравінную базу прамысловага прызначэння: упершыню трэба будзе ўстанавіць запасы грыбоў, ятад, лекава-тэхнічнай сыравіны і іншых дароў прыроды. Прадугледжваецца таксама вывучэнне водаахоўных асаблівасцей тайгі, вызначэнне перспектыўных зон адпачынку і турысцкіх маршрутаў краю.

### ПРЫГАЖЭЕ СТАЛІЦА

У дзесятай пяцігодцы на добраўпарадкаванне, азеляненне, санітарнае ўтрыманне Мінска, ахову навакольнага асяроддзя выдаткавана больш як 83 мільёны рублёў. На гэтыя сродкі рэканструявана і пабудавана каля 40 кіламетраў вуліц і дарог, некалькі мастоў, пуцеправодаў і падземных пераходаў, створаны новыя зялёныя насаджэнні на плошчы, якая перавышае 430 гектараў, разбіта дваццаць сквераў і бульвараў.

### *У ГЭТЫМ ТЫДНІ*

**675 гадоў назад**

20.7.1304 нар. Ф. Петрарка, італьянскі паэт, вучоны-гуманіст эпохі Адраджэння.

**80 гадоў назад**

21.7.1899 нар. Э. Хемінгуэй, амерыканскі пісьменнік.

**75 гадоў назад**

15.7.1904 пам. А. Чэхаў (нар. 29.1.1860), рускі пісьменнік.

**35 гадоў назад**

21.7.1944 быў створаны Польскі камітэт нацыянальнага вызвалення (ПКВН). Часовы орган выканаўчай улады.

* * *

*17.7.1909 пецярбургская „Ніва" пісала: Пераплятаючыеся ніці еўрапейскіх інтарэсаў паступова зацягваюцца ў Персіі ў тугі вузел. Англа-рускае пагадненне да пэўнай ступені аблягчае магчымасць паспяховага вырашэння складанай палітычнай задачы, але яно не ізаліруе Персію ад іншых уплываў і пабочных, бясконца ўскладняючых уздзеянняў. Апрача Англіі і Расіі лічыць сябе зацікаўленай у персідскіх справах таксама і Турцыя, а разам з ёю, ці праўдзівей за яе спіною, выступае Германія.*

**Niwa**

**BIAŁORUSKI TYGODNIK SPOŁECZNO-KULTURALNY**

**ODZNACZONY ZŁOTĄ ODZNAKĄ „ZASŁUŻONY BIAŁOSTOCCZYŹNIE"**
**Organ Zarządu Głównego Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego**

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *

**ADRES REDAKCJI**
**Niwa**
**ul. Wesołowskiego 1**
**15-950 Białystok, skr. poczt. 149**
**tel. 2-32-41**

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *

Wydawca:
RSW „Prasa-Książka-Ruch", Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe w Białymstoku. Prenumeratę na kraj przyjmują Oddziały RSW „Prasa-Książka-Ruch" oraz urzędy pocztowe i doręczyciele. Cena prenumeraty rocznej 52 zł. Prenumeratę ze zleceniem wysyłki za granicę, która jest o 50% droższa od prenumeraty krajowej, przyjmuje RSW „Prasa-Książka-Ruch", Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa, konto PKO nr 1531-71.
Indeks 36911/36871
B.Z.Graf. Zam. 1242. Nakład 6400 egz. S-2





*Паркавая магістраль у Мінску.* *Фота М. Гайдука.*

## ЖЫВОЕ ЖЫЦЦЁ

З **Уладзімірам Паўлавым** мы сустрэся ў незвычайных абставінах, проста пад палаючымі юпітэрамі ды зоркімі камерамі ў студыі Беларускай тэлевізіі. Запрасіў нас туды вельмі сімпатычны чалавек і паэт, загадчык літаратурнай рэдакцыі **Язэп Скурко.** Разам з паэтам і галоўным рэдактарам дзіцячага часопіса „Бярозка" **Анатолем Грачанікавым** і намеснікам старшыні беларускай рэспубліканскай камісіі па садзеянню Савецкаму фонду міру і празаікам **Маратам Ягоравым** мы выступалі ў перадачы „Літаратурная Беларусь", якую сістэматычна вядзе мінская тэлестудыя. Вёў перадачу Я. Скурко. Мае сябры расказвалі пра дзейнасць беларускіх абаронцаў міру, чыталі свае вершы, прысвечаныя антываеннай тэматыцы. Мне, як госцю з Беласточчыны, была дадзена магчымасць пазнаёміць гледачоў беларускай тэлевізіі з дзейнасцю БГКТ і „Нівы", расказаць пра беларускі літаратурны рух у нашым асяроддзі. У часе падрыхтоўкі перадачы, хоць адусюль ліўся жывы жар і пот заліваў нам вочы, бо гэта быў якраз канец усмажлівага сёлетняга мая, у нас завязалася жывая гаворка. Як гэта бывае сярод людзей, што кормяцца пяром, праз некалькі мінут мы ўжо ведалі адзін пра другога ўсё асноўнае. Ды не толькі. Мне стала вядома, што М. Ягораў быў у часе вайны ваенным карэспандэнтам і прайшоў з Савецкай Арміяй усю Польшчу ад Буга і да Одры і напісаў тады некалькі апавяданняў, сярод якіх найважнейшым лічыць твор „Як я быў панам". Што А. Грачанікаў па прафесіі інжынер чыгуначнага транспарту, але цяпер карыстаецца ёю толькі едучы на сустрэчы са сваімі шматлікімі малымі і дарослымі чытачамі. Затым Я. Скурко зусім не затойваў, што ён родам з тае самай Пількаўшчыны на Мядзельшчыне, адкуль паходзіць Максім Танк, і яго бацькі блізкія суседзі калі не родзічы з бацькамі аўтара „Нарачы" і „Янука Сялібы". А У. Паўлаў... З ім я проста дамовіўся назаўтра на даўжэйшую размову пра стан сучаснай беларускай паэзіі і вельмі ўцешыўся гэтым. І не выпадкова.

У. Паўлаў — вядомы на Беларусі і ў іншых рэспубліках СССР пісьменнік, аўтар некалькіх зборнікаў паэзіі, чатырох аповесцяў, многіх нарысаў і артыкулаў. Пачаў ён публікавацца ў 1954 г., яшчэ калі быў 19-гадовым юнаком. Яго 25 год уласнай актыўнай літаратурнай дзейнасці і тое, што ён ужо некалькі год узначальвае рэдакцыю паэзіі ў вядучым мінскім выдавецтве „Мастацкая літаратура", упаўнаважвае яго да аўтарытэтных заўваг наконт цяперашняй беларускай паэзіі.

— Што ж, у нашай рэдакцыі збіраецца ўсё, што выдаецца ў перыядычным друку рэспублікі. Мы павінны і як літаратары і як працаўнікі дзяржаўнай установы матэрыялізаваць гэтую творчасць у кнігах, — расказваў ён, калі мы сядзелі на лаўцы ў цені вышэзнага, бо ў трынаццаць ці пятнаццаць павярхаў, сучаснага гмаху Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю, што высіцца па Паркавай магістралі. —



Нас перш за ўсё цешыць творчая актыўнасць нашых старэйшых паэтаў **П. Панчанкі, М. Танка, М. Лужаніна** і шэрагу іншых, якія даюць штогод па ладнаму тому сваёй паэзіі. Не буду скрываць, што радуюся я і за сваіх равеснікаў, якіх цяпер называюць ужо „сярэднім" пакаленнем. Вядома, гаворачы словамі А. Твардоўскага: „Наш возраст тот, что службу главную несёт". І здаецца мне, што бярэ яно ношу не сярэднюю, але цяжэйшую, упрагаецца ў гэтую службу. Імёны? Гэта будуць: **Р. Барадулін, Г. Бураўкін, В. Зуёнак, Я. Сіпакоў, Г. Кляўко, П. Макаль, Н. Гілевіч, Ю. Свірка, К. Цвірка, Р. Тармола, А. Вярцінскі, А. Грачанікаў** і многа іншых. У гэтай кагорце ёсць лаўрэаты Дзяржаўных прэмій БССР, як Р. Барадулін, Я. Сіпакоў, лаўрэаты прэмій Ленінскага камсамола Беларусі: **Р. Бара-**

*Працяг на стар. 4*

**ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"**

**За цябе мы на бітву ішлі... ● Вершы аб Радзіме Ірыны Бярозкі ● У нашым супольным доме ● Пачалася ў ліпені ● За вёскай Ліпіны... ● Ад сярпа да камбайна ● Весткі з Гайнаўкі, Дубіч Царкоўных, Праневіч, Бельска ● — Што рабіў бы наш прадзед? — пытаецца А. Леўшук ● Модныя паяскі ● Сны Колі аб каханні ● Песня „Niebo z moich stron"**

## ШТО НОВАГА?

### ЗМРОЧНЫЯ ПРАГНОЗЫ

Да мноства нярадасных прагнозаў, з якімі выступаюць у апошні час многія ўплывовыя брытанскія эканамісты, прыбавіўся яшчэ адзін. Вельмі змрочную карціну на будучыню нарысавала газета „Сандзі тэлеграф", прааналізаваўшы эканамічную палітыку кансерватараў, сфармуляваную ва ўрадавым бюджэце на бягучы фінансавы год.

На думку газеты, наўрад ці трэба чакаць якога-небудзь прыкметнага аздараўлення эканомікі Вялікабрытаніі прынамсі ў бліжэйшыя два гады. Наадварот, востры крызіс, які перажывае зараз краіна, будзе паглыбляцца ў выніку ажыццяўлення „жорсткіх" эканамічных праграм кансерватараў. У прыватнасці, рэзкае павелічэнне ўскосных падаткаў, аб'яўленае ў бюджэце, прывядзе да росту інфляцыі. Яе сярэднегадавыя тэмпы ўжо да канца гэтага года дасягнуць 17 працэнтаў у параўнанні з цяперашнімі 11—12 працэнтамі. Адначасова ў выніку скарачэння дзяржаўных расходаў на сацыяльныя патрэбы і ў ключавыя сферы эканомікі, адзначае „Сандзі тэлеграф", трэба чакаць далейшага замаруджвання штогадовых тэмпаў эканамічнага росту, якія на пачатак 1980 года знізяцца да 1,5 працэнта, а ў першай палавіне 1980 года — практычна да нуля.

„Сандзі тэлеграф" прадказвае расшырэнне арміі „лішніх" людзей да 1,7 мільёна чалавек да сярэдзіны наступнага года. Павялічыцца таксама дэфіцыт плацежнага балансу.

## ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek 13 VII** — 8.35 Film fab. 14.40 Film fab, ser. 19.05 Epopeja film. „Wielka Ojczyźniana", cz. 20, „Żołnierz nieznany". 20.35 Piosenka 79.
**Sobota 14 VII** — 9.30 Epopeja film. „Wielka Ojczyźniana" — „Żołnierz nieznany". 14.00 Koncert. M.in. „Pieśniary". 15.55 W świecie zwierząt. 17.40 Film anim. 20.35 Koncert. 21.20 Balet.
**Niedziela 15 VII** — 8.05 Koncert. 10.30 Film anim. 12.30 Spektakl. 15.05 Klub film. 17.00 Panorama międzynar. 20.35 Film muz.

## ГАВОРЫЦЬ БЕЛАСТОК!

**Беларуская радыёперадача: субота 12.05 — 12.25 (UKF).**

## КІНО

**Białowieża** Powrót człowieka zwanego koniem — USA 19—20. Wśród nocnej ciszy — pol. 21—22.
**Bielsk Podl.** Diabli mnie biorą — fr. 16. Opatrzność — fr. 17—18. Przyjaciele Eddiego — USA 19—20. Doktor Mladen — jug. 21—22.
**Czeremcha** Tajemnica — fr. 17—18. Milioner — pol. 21—22.
**Czyże** Wszyscy i nikt — pol. Ostatni raz — USA 18—22.
**Gródek** Koziorożec — USA 21—22.
**Hajnówka** Nie ma dymu bez ognia — pol. 16—18. Syndykat zbrodni — USA 19—20. Do krwi ostatniej — pol. 21—22.
**Michałowo** Jutro się policzymy kochanie — czes. 17—18. Sandakan — jap. 19—20. Rebus — pol. 21—22.
**Mielnik** Dick i Jane — USA 18. King Kong — USA 21—22.
**Milejczyce** Wypij do dna — radz. Kiedy dojrzewa jagoda — jug. 18—22.
**Narew** 56 godzin na wagarach — czes. Ring — węg. 18—22.
**Narewka** Partita na instrument drewniany — pol. Zagubione dusze — wł. 18—22.
**Nurzec** Trzy orzeszki dla kopciuszka — czes.-NRD 17—18. Odbicie światła — czes. 19—20. Roman i Magda — pol. 21—22.
**Orla** Siedem piegów — NRD. Komisarz w spódnicy — fr. 18—22.
**Rajsk** Rocky — USA. Jego pierwsza miłość — pol. 18—22.

З НАРОДНАЙ АБРАДНАСЦІ
СТАДЫІ Ў ЖЫЦЦІ ЧАЛАВЕКА

# ВЯСЕЛЬНЫЯ ПЕСНІ

Рэдка ўжо сустракаюцца сёння шумныя некалькідзённыя вяселлі, вяселлі са сватамі, розглядамі, запоінамі, дзявочым вечарам, прыданым, гасцінаю, якую ў залежнасці ад ваколіц называюць „пірагамі“, або „пэрэжовінамі“. Адыходзяць у забыццё жанры вясельнай народнай творчасці — прыказкі, прымаўкі, віншавальныя прамовы — „вянкі“, песні. Для маладога пакалення гэта ўжо свайго роду архаізм. У папярэдніх адрэзках нашага цыкла правёдзілі мы кароткі аналіз розных відаў вясельнага фальклору. Былі віншавальныя прамовы, былі арацыі, успаміналі аб мовах маршалкаў, з якіх выплывалі прыказкі і прымаўкі. Засталіся песні — самы багаты па сваім змесце і найбольш папулярны жанр народнай творчасці вясельнага абраду. Перапляталі яны цэлае вяселле, ад якога немагчыма іх адлучыць, і не мэтай нашай з'яўляецца аналіз іх зместу. Глянем сёння на іх агульна, як на жанр народнай творчасці, на іх значэнне і ролю ў гэтым абрадзе.

Цыкл вясельнага абраду ўключае ў сваю структуру цэлы рад вясельных песень, якія дзеляцца на некалькі груп. Паяўляліся яны, пачынаючы недзе ад заручын. Несумненна, не было тут цвёрдай мяжы, аддзяляючай песні аднаго этапа ад другога. Прыкладна, тыя самыя песні, што спявалі ў час „дзявочага вечара“, выконваліся ў вясельную нядзелю ці панядзелак пры застольным гасцяванні або на „пэрэжовінах“. Але адначасова былі песні, акрэсленыя па свайму прызначэнню. Прыкладна, песні прывітальныя, песні, запрашаючыя да выезду на шлюб, песні пры абразанні касы маладой, песні, накіраваныя да маладой-сіраты, гумарыстычныя песні; прысвечаныя маршалку, песні-„стуойкі“, якія называлі інакш „запарожніцамі“. Папаўняючай групай былі песні, якія ўмоўна можна назваць „свабоднымі“, не ахопленыя вышэй спамянутым канонам. Часта былі яны зусім не звязаны з вяселлем, прыкладна, песні рэкруцкія, або звязаны пасрэдна — песні дзявочыя і юнацкія, песні кахання ці песні сямейныя. Першыя выконваліся як сум за вольным жыццём, наступныя — з нагоды спалучэння жыцця з каханым чалавекам, апошнія як прадказванне будучага жыцця з яго абавязкамі і праблемамі. Часта ў гэтых песнях паяўляўся матыў цёшчы — галоўная прычына будучай нязгоды ў сям'і. І гэтыя песні перапляталіся з песнямі канкрэтна вясельнымі, надаючы абраду каларыстычнасць і драматызм. Паказвалі яны духоўнае багацце народа.

У большасці песні былі формай своеасаблівага роду дыялагу паміж удзельнікамі вяселля, гумарыстычнага дыялагу паміж вясельнікамі і маршалкам, дыялагу паміж сватамі і дружкамі, паміж госцьмі маладога і маладой, паміж „запарожніцамі“ і вясельнікамі. Калі прыняць тэрмін „вяселле“ як драму, дык песні былі дзеяннем, а іх змест і форма паказвалі на тэму і месца. Месцам быў рэгіён, вёска. У кожнай ваколіцы былі свае песні, а калі паўтараліся, дык мелі ўласныя, характэрныя для данай мясцовасці рысы. Песні развівалі дзеянне, даводзілі да кульмінацыйнага пункту і наступала развязка. Прыкладам можа быць песенны дыялаг паміж маршалкам і вясельнікамі, а асабліва дружкамі, які прыводзілі мы пры апісванні застольнага гасцявання.

Песенная пераклічка была адначасова спробай усебаковага ўзаемавыведвання. Асабліва калі гаварыць пра гасцей маладога і маладой ці „стуойку“ і вяселле. Нярэдка песні былі і парадай маладой пары, з якіх адно ішло ў чужыя яму мясціны, уключалася ў чужую сям'ю.

Сёння ўжо засталіся рэшткі даўняга вясельнага абраду. Няма ўжо рытуальных хораў, якія поўнілі функцыю рэжысёра гэтага цэлага спектакля. Няма дзявочых хораў, якія прасілі ў бацькоў маладога ці маладой благаслаўлення, якія запрашалі брата маладой адрэзаць ёй касу. Месца традыцыйных вясельных песень і прыпевак занялі аўтарызаваныя „ярмарачныя“ крыклівыя творы. Распачалася пагоня за новым, сучасным, а традыцыя нярaз лічыцца пагардлівай „вяскоўшчынай“. Ды, зрэшты, і само вяселле звялося толькі да некалькігадзіннай „гарэлачнай“ бяседы.

**Янка Леанчук,**
**Міхась Шаховіч**

# ПРА ГУРТОК „ТРАЯНДА“

У пачатку гэтага года пры каапераатыве інвалідаў „З'едночэне“ ў Любліне быў арганізаваны гурток савецкай песні „Траянда“ („Траянда“ — па-ўкраінску значыць „ружа“). Гурток налічвае 12 чалавек, у тым ліку 9 жанчын. Кіруе гуртком аўтар гэтага артыкула. У праграме спяваючага калектыву ёсць песні польскія, рускія, украінскія, адна беларуская і адна грузінская.

У апошні час гурток атрымаў ад Галоўнага праўлення БГКТ беларускія спеўнікі, у тым ліку адзін вельмі каштоўны: „Беларускія народныя песні“, за што члены гуртка сардэчна дзякуюць. З гэтых спеўнікаў выбярэм некалькі беларускіх песень і ўключым іх у праграму.

Цяпер у праграме пераважаюць украінскія песні, бо большасць членаў гуртка выводзіцца з ансамбля, які існаваў да 1976 года пры гуртку УГКТ у Любліне. Акрамя некалькіх асоб, усе члены гуртка „Траянда“ — палякі, любіцелі рускіх, украінскіх і беларускіх песень. „Траянда“ дала ўжо два канцэрты ў Любліне, а цяпер рыхтуе праграму да выезду ў вёскі на Бугу ў ваяводстве Белая Падляска.

Мэтай нашага гуртка „Траянда“ з'яўляецца пашырэнне польска-савецкай дружбы праз азнаямленне насельніцтва з песнямі народаў Савецкага Саюза, а асабліва рускага, украінскага і беларускага народаў.

Мо на другі год гурток „Траянда“ прыедзе з песнямі на Беласточчыну. Члены былой „Траянды“ ў 1975 годзе выступалі ў Кляшчэлях, Чаромсе і Дубічах Царкоўных. Да сёння мы ўсе, што там пабывалі, успамінаем вельмі сардэчны прыём і шчырую гасціннасць жыхароў гэтых мясцовасцей. За пасрэдніцтвам вашай папулярнай газеты пасылаюць члены „Траянды“ свой шчыры, братэрскі прывет і як найлепшыя пажаданні жыхарам Кляшчэль, Чаромхі і Дубічаў Царкоўных.

**Іван Ігнацюк**



*У часе наведвання сталай выстаўкі жывапісу ў Беластоцкім акруговым музеі. Фота М. Гайдука.*

# БЕЛАРУСКІЯ КНІГІ

У кнігарні імпартных выданняў у Беластоку, вул. Кілінскага 10, можна набыць наступныя кнігі на беларускай мове:

**Пысін Аляксей,** Ёсць на свеце мой алень, 1978, стар. 94, цана 10 зл.

Зборнік вершаў беларускага паэта старэйшага пакалення, журналіста, удзельніка Вялікай Айчыннай вайны, чалавека з вялікім жыццёвым вопытам. У гэты вельмі арыгінальны па форме зборнік увайшлі творы, якія паўсталі ў апошнія гады.

**Мележ Іван,** Завеі, снежань, 1978, стар. 240, цана 30 зл.

Раман, падзеі якога развіваюцца ў нядаўнім мінулым Савецкай Беларусі. Ён — апошняя частка славутай „Палескай хронікі“, у якую ўвайшло некалькі раманаў і над якой пісьменнік працаваў доўгія гады.

**Майхровіч Сцяпан,** Іван Шамякін, 1978, стар. 110, цана 9 зл.

Нарыс пра жыццё, грамадскую дзейнасць і асноўныя творы сучаснага беларускага празаіка. Разглядаюцца ў кнізе гісторыя ўзнікнення і асноўныя праблемы раманаў І. Шамякіна „У добры час“, „Крыніцы“, „Сэрца на далоні“, „Снежныя зімы“ і іншыя творы.

**Паўленка М. А.,** Нарысы па беларускаму словаўтварэнню, 1978, стар. 136, цана 24 зл.

Навуковае даследаванне пра станаўленне і развіццё жаночых асабовых кантамінацый у старабеларускай мове.

Песні пра каханне, 1978, стар. 616, цана 58 зл.

Чарговы салідны том з вялікага шматтамовага выдання „Беларуская народная творчасць“, якую ўжо некалькі год вельмі ўдала ажыццяўляе Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук БССР. Гэты том склаў, сістэматызаваў у ім песні, узбагаціў яго аналітычным артыкулам і каментарыямі вядомы беларускі фальклрарыст І. К. Цішчанка, мелодыі апрацаваны і прааналізаваны С. Г. Нісневіч. У томе знаходзіцца звыш 450 беларускіх народных песень пра каханне.

Кнігарня ахвотна высылае кнігі за паштовым залічэннем. Запатрабаванні накіроўвайце па адрасу: „Dom Książki“ 15-089 Białystok, ul. Kilińskiego 10.

(мг)

УСПАМІНЫ (28)




## ДОБРЫ ГОД

Урачыстасць уручэння Гарадоцкай гміне высокай дзяржаўнай узнагароды прадбачвалася імпазантнай. Была створана спецыяльная група, якая сачыла за ходам падрыхтоўкі. За мастацкую частку адказвала пані з ваяводскага ўпраўлення культуры. Была ў нас, каб вызначыць праграму. Гэта нам не цяжка. У нашым рэпертуары звыш 200 песень і шмат вершаў з шырокім тэматычным выбарам. З гэтай паняй выйшлі ў нас непаразуменні. Не ведаючы беларускай мовы, хацела яна накінуць нам праграму.

Праграму зрабілі самі. Была цудоўная. Гэта не мая ацэнка. Так сказалі прысутныя на ўрачыстасці прадстаўнікі ваяводскіх улад. А пані з ваяводскага ўпраўлення культуры прызнала рацыю. Гаварыла, што зусім непатрэбна прывезла артыстаў з тэатру (жанчыну і мужчыну: чыталі па два вершы). Мы выступілі са слоўна-музычным мантажам. І не горш за прафесіянальных артыстаў.

Крыху хваляванняў, эмоцый і нерваў нанава ўваскрасілі хваробу. І зноў у бальніцы. Праляжала каля чатырох тыдняў. Вярнулася дамоў. Дом — як бальніца. Трэба лічыць гадзіны і жменямі глытаць таблеткі. Хандра, апатыя.

Я яшчэ не такая старая. 18 снежня споўніцца 67 год. Планавала зысці са сцэны ў 70 год. А тут маеш...

Сяброўкі 4 верасня адзначалі 20-годдзе сельскагаспадарчых гурткоў у Залуках. Там такі сардэчны народ. Напэўна цешыліся, што прыехаў калектыў. А я толькі душою з імі.

11 верасня ў Гарадку адбываліся гмінныя дажынкі. Выступаў калектыў, але сяброўкі далёкія былі ад захаплення. Безнадзейная арганізацыя. Арганізатары забыліся нават у будынку гміны дажынкавы вянок. Аб чым думалі?

Затое дажынкамі ў Крынках, якія адбыліся 18 верасня, удзельніцы нашага калектыву былі проста ачараваны.

24 верасня калектыў меў новую атракцыю. Выступаў у беластоцкім рэстаране „Гродна“. Весялілі наведвальнікаў і самі пагулялі. У снежні візіт паўтарылі.

Хаджу на рэпетыцыі, памагаю ў мантаванні праграмаў, але ўсё гэта слёзы, а не работа.

Зіма, доўгія вечары. Збярэмся, крыху папляткуем, паўспамінаем, ну і развучваем новыя песні або паўтараем забытыя. Я ўжо такая, калі нешта напішу, дык не хачу, каб яно ляжала ў шуфлядзе. Таму і апошні свой твор „Сход гуртка вясковых гаспадынь“ — раздзяліла сярод сяброўак, хай вучацца, прыдасца. Сабе таксама прыдзяліла ролю.

Хутка прайшоў год. Быў ён добры для калектыву. Не зыходзіў з першай старонкі „Нівы“.

# БЕЛАРУСІЯНА

## КАБ БОЛЬШ ДОБРАСУМЛЕННА

З вельмі вострай крытыкай двухтамовай „Анталогіі савецкай паэзіі“, што нядаўна выйшла ў Дзяржаўным выдавецкім інстытуце ў Варшаве, выступіў М. Вавжкевіч у артыкуле „Сто народаў, сто перакладчыкаў?“, змешчаным двухтыднёвіку „Новэ ксёнжкі“ ад 15 чэрвеня 1979 г. М. Вавжкевіч абвінавачвае складальніка „Анталогіі“ Ю. Вачкува ў абыякавых адносінах да выбару паэтаў і іх твораў, змяшчэнні слабых перакладаў, пераважна ўласных, г. зн. Ю. Вачкува, банальным уступе да гэтага выдання і шэрагу іншых недахопах. Перш за ўсё М. Вавжкевіч асуджае Ю. Вачкува за незахаванне прапорцый і проста зняважлівыя адносіны да паэзіі шэрагу савецкіх народаў.

„Падобна бесцырымонна абышоўся Вачкуў з Беларуссю (6 паэтаў), — піша М. Вавжкевіч. — Зноў тут быў прыменены метад буквара: Броўка, Бураўкін, Колас, Купала, Куляшоў, Танк. Але ж на самай справе немагчыма сабе ўявіць добрасумленнага — хоць абмежаванага недахопам месца — паказу беларускай паэзіі без вершаў Барадуліна, затым па чарзе Панчанкі, Наўроцкага, Караткевіча, Бічэль ці Іпатавай. Гэтыя прозвішчы складаюць аснову.“

(мг)

# ГМІННЫЯ НАВІНЫ

## КАРЫСНАЕ СУПРАЦОЎНІЦТВА

Кіраўніцтва хімічнай спулдзельні працы „Бэтэска“ ў Беластоку і гмінныя ўлады ў Гарадку падпісалі дагавор аб супрацоўніцтве. Ёсць ужо першыя вынікі. З нагоды Міжнароднага года дзіцяці беластоцкі кааператыў падарыў дзецям гарадоцкіх ясляў і прадшколля розныя цацкі ўласнага вырабу, а таксама кніжачку жыллёвага кааператыва з поўным грашовым укладам для круглай сіраты Дануты Пюрэцкай з Гарадка, вучаніцы трэцяга класа Агульнаадукацыйнага ліцэя ў Міхалове.

Быў ужо наладжаны супольны грамадскі пачын пры пасадцы лесу ў надлясніцтве Валілы.

Рабочыя „Бэтэскі“ намераны дапамагчы жыхарам Гарадоцкай гміны пры ўборцы збожжа.

У сваю чаргу сяляне прададуць гараджанам свае лішкі фруктаў, агароднiны, бульбы і іншыя сельскагаспадарчыя прадукты.

Спамянуты дагавор датычыць таксама абмену мастацкімі калектывамі, запрашэнняў на ўрачыстыя акадэміі, святкаванняў знамянальных гадавін і дзяржаўных святаў, навагодніх баляў і г.д.

## СЯЛЯНЕ КУПЛЯЮЦЬ ЗЯМЛЮ

У мінулым годзе найбольш зямлі купілі сяляне ў Заблудаўскай (105 га), Міхалоўскай (103 га), Сідраўскай (100 га), Сакольскай (96 га) і Бельскай (85 га) гмінах. Найменш у Шудзялаўскай, Кляшчэлеўскай, Арлянскай, Нараўскай і Дуброўскай гмінах.

## ДАРОГІ Ў ГРАМАДСКІХ ПАЧЫНАХ

У Беластоцкім ваяводстве ёсць 7399 кіламетраў мясцовых дарог, у тым ліку 5147 км так званых грунтовых, на якіх няма ні асфальту, ні бруку. У 1976—78 гадах пабудавана 114 км новых дарог, у тым ліку 104 км у рамках гмінных фондаў і грамадскіх пачынаў. Апрача таго, мадэрнізавана 261 км, у тым ліку сем кіламетраў — грамадскай працай. У спамянутыя гады грамадскіх пачынаў пры пабудове дарог выканана на суму 214,5 млн. злотых. З дзяржаўнага фонду пайшло на ўспамогу грамадскіх пачынаў 13,6 млн. злотых.

Сёлета на Беласточчыне сваімі рукамі людзі пабудуюць сорак кіламетраў дарог. Мадэрнізацыя і аднаўленне будуць праведзены на 79 км дарог. Асабліва там, дзе знішчыла іх вясенняя паводка.

## ВУЧНІ САДЗІЛІ ЛЕС

Вучні зборнай гміннай школы ў Нараўцы сёлета пасадзілі дванаццаць гектараў лесу ў лясніцтвах Ланчына, Замоша, Альхоўка і Мінкоўка (усе яны ў надлясніцтве Броўск). У свабодны ад навукі час лес садзілі сто пяцьдзесят вучняў з класаў VI—VIII і настаўнікі. Найбольш саджанцаў сасны, елкі, вольхі і дуба.

Школьнікі старэйшых класаў са стараляўкоўскай пачатковай школы (гміна Нараўка) пасадзілі 2,5 га лесу.

Вучні пятага-восьмага класаў пачатковай школы са Старыны ў гміне Дубічы Царкоўныя, разам трыццаць асоб, пасадзілі 3,5 га лесу каля Старыны і Кляшчэляў (у лясніцтвах Чэхі Арлянскія і Кляшчэлі ў бельскім надлясніцтве). Найбольш сасонак.

Найбольш лесу, у сярэднім 300—400 гектараў у год, садзіць старэйшая моладзь (члены ЗГП і ЗСМП) шматлікіх школ у надлясніцтве Валілы, якое ахоплівае Гарадоцкую, Крынкаўскую і Шудзялаўскую гміны. Найбольш там, дзе аблогі неабходна вярнуць лясной прадукцыі. І так, у ваколіцах Свіслачан, Мастаўлян. Крынкаў, Крушынянаў, Коматаўцаў, Скраблякоў, Баброўнікаў. Азерскіх, Белагорцаў і Цюмічаў. Найбольш садзілі гарцэры са школ у Валілах-станцыі, Залуках, Вераб’ях, Гуранах, Шудзялаве, Сухінічах, Новым Востраве, а таксама агульнаадукацыйных ліцэяў у Саколцы і ў Беластоку (№ 5), медыцынскай школы, механічных гастранамічных, электрычных ды вопраткавых школ (усе з Беластока). Юных памочнікаў давозілі на месцы лясных пасадак сваімі сродкамі транспарту транспартнае прадпрыемства ўнутранага гандлю, спулдзельня „Турыст“, спулдзельня вясковага транспарту ды ваяводскае аб’яднанне спулдзельчасці працы „Аўтанаправа“ — усе з Беластока. Усім ім валілаўскае надлясніцтва сардэчна дзякуе.

**Я. Целушэцкі**

# Гэты пачын неабходна падтрымаць

Даволі вялікая вёска Ставішчы ў Чаромхаўскай гміне налічвае 320 жыхароў і 96 гаспадарак. Чатыры гады назад, вяскоўцы распачалі пабудову Дома культуры на 120 квадратных метраў карыснай плошчы ў сярэдзіне вёскі, на зямлі ПФЗ. Раней ставішчане дапамаглі ў пракладцы бруку, а затым самі праклалі тратуары. Восенню мінулага года былі гатовы ўжо сцены. Цэглу, пустакі — сіпарэксы, трэгры, вокны і дзверы купілі сяляне Ставішчаў за свае грошы. Вёска мела 90 тысяч злотых. Пустакі купілі ў Седльцах. Самі звезлі будаўнічыя матэрыялы. Кляшчэлеўскі СКР даў бетанярку. Уклад самой працы пры пабудове Дома культуры вылічаны на суму 240 тысяч злотых. Будынак неабходна яшчэ накрыць. Жыхары Ставішчаў шукаюць дапамогі ў гмінных улад, але без поспеху. А гэты ж пачын вяскоўцаў неабходна падтрымаць. Ставішчане многа зрабілі, каб мець у сябе глядзельны зал, сцэну, бібліятэку і чытальню. Але колькі ж можна без дапамогі адміністрацыйных улад! Гэтак тлумачаць солтыс Анатоль Шульжык, сакратар партарганізацыі Мікалай Смык, Мікалай Дарашкевіч, Сяргей Рошчанка — застрэльшчыкі апісанага мерапрыемства і мясцовае насельніцтва.

**(яц)**

# ВЯТРАК У БЕЛАВЕЖЫ

Белавежцы ўжо прывыклі да ветрака, які восенню мінулага года быў пастаўлены непадалёк дарогі з Белавежы ў Пагарэльцы. Калі яго ставілі, у Белавежы ніхто пра што іншае не гаварыў. Чагосці такога тут здаўна не бачылі, хаця ў гісторыі пасёлка такія „дзівы“ здараліся. Цяпер аб ветраку пачалі гаварыць турысты, якія маюць магчымасць яго паглядзець. Яны проста ім захапляюцца. Праўда, што вятрак — хаця яшчэ без крылаў — вельмі цікава рэкамендуецца, стоячы на выгане ў логу ракі Нараўка, на фоне Белавежскай пушчы.

Але як трапіў ён у Белавежу? Проста. Вось Міхал Байко (пра якога мы ўжо няраз пісалі на старонках „Нівы“) супольна з сябрамі і знаёмымі, Анатолем Аддзеевічам, Георгіем Манаховічам, Яўгенам Чыквінам, Багданам Ляшчынскім, Мікалаем Аляксеюком, Паўлам Дэйкалам, Сяргеем Мартыновічам і Аляксандрам Баршчэўскім рашылі свайго часу выратаваць ад знішчэння вятрак, які стаяў у сяле Катлы, што каля Бельска Падляшскага. Меў ён дзіравы дах, прагнілыя бэлькі і з году ў год прыходзіў у заняпад. Пабудаваны быў яшчэ ў 20-тыя гады нашага стагоддзя. За сабраныя грошы белавежскія хлопцы адкупілі ад гаспадара (гр. Лісевіча) гэты вятрак і перавезлі яго ў Белавежу. Пляц пад будыніну аддалі бацькі Міхала Байко. Свой набытак новыя ўладальнікі складалі ад жніўня да позняй восені. Засталося яшчэ дарабіць крылы, ды гэта патрабуе часу і грошы тут адыгрываюць таксама немалую ролю. Крыху дапамог групе энтузіястаў ваяводскі кансерватар гістарычных помнікаў, які звярнуў грошы за транспарт і будаўнічы матэрыял.

І так, дзякуючы ініцыятыве і самаахвярнасці нашых землякоў, Белавежы прыбыў вялікі турыстычны атракцыён. Няма ніводнай групы экскурсантаў, якая б прайшла або праехала ля ветрака, не сфатаграфаваўшы яго. Асабліва захапляюцца ім замежныя турысты. А што будзе, калі яму даробяць крылы і прывядуць у рух?

**Пётр Байко**



(Працяг са стар. 2)




**дулін, Г. Бураўкін, В. Зуёнак, А. Грачанікаў.** Яны прызнаны і чытачамі, і грамадскасцю, і ўрадам.

— А што з маладой рунню?

— Расце і вельмі актыўна працуе вялікі яе атрад. Сярод яго ёсць многа выдатных талентаў. Гэта лаўрэаты прэміі Ленінскага камсамола Беларусі **Я. Янішчыц, В. Вярба, Т. Бондар, Н. Тулупава.** Усе жанчыны! У нас, ведаеце, якраз на Міжнародны год жанчын выпусцілі ім па зборніку, прытым зусім выпадкова... Але маем тут і мужчын, ды яшчэ якіх! Вось хоць бы **Н. Голуб, Г. Пашкоў, У. Някляеў.** Іх папаўняе новы літаратурны прыплыў. Імён тут вельмі многа, пра гэта сведчыць ужо хоць бы і тое, што за апошнія 6 год мы выдалі 52 першыя кніжкі паэтаў. І гэта далёка не ўсё! Каб неяк „разгрузіць“ нашы рэдакцыйныя шуфляды і не трымаць маладых у катуху, пакуль ім не стукне саракоўка ды яны цалкам састарацца, дык мы выдаем у бягучым годзе калектыўны зборнік „Нашчадкі“, аб’ёмісты, у ім будзе прадстаўлена 17 паэтаў. Выпускаем яшчэ адну калектыўную кніжку „Перасветы“, у якую ўвайшло 11 аўтараў. Гэта старэйшыя паэты, якія да гэтага часу не мелі сваіх індывідуальных кніжак.

— Якія плыні і напрамкі заўважаюцца ў цяперашняй беларускай паэзіі?

— Перш за ўсё гісторыка-рэвалюцыйная тэматыка, якую распрацоўваюць усе пакаленні нашых паэтаў. Гэтак жа нам блізкая, важная і патрэбная з’яўляецца таксама для ўсіх тэма Вялікай Айчыннай вайны. І гэта натуральна, бо, як вядома, кожны чацвёрты беларус тады заўчасна лёг у зямлю. І, вядома, адлюстраванне нашага сённяшняга дня, нашай працы, будаўніцтва, кахання, словам — жывога жыцця.

— А ў справах паэтычнага варштату?

— Пошукі маладых перш за ўсё ідуць у напрамку ўдасканальвання форм верша. І трэба прызнаць, што многія з іх валодаюць філіграннай тэхнікай вершаскладання, музыкай вершаванага радка, чароўнай меладычнасцю яго, надта ж пластычнымі паэтычнымі фігурамі. Маладыя нашы гэта ўмеюць! Але, на жаль, нярэдка здараецца, што тэксты, напісаныя вершам, не напоўнены паэзіяй, філасофскай развагай, грамадзянскай баявітасцю. Ды ў іх жа ж усё наперадзе! Найважнейшая якасць іх творчасці — гэта іхняя цудоўная маладосць!..

Пры развітанні У. Паўлаў падпісаў і ўручыў мне на памяць аб нашай размове свой апошні зборнік вершаў „Сонца купаецца“. Потым, ужо ва ўтульнай самоце номера гасцініцы „Юбілейная“ я далёка за поўнач адкрываў на яго старонках барвовае юнацтва майго размоўцы, захапляўся маладым аптымізмам вопытнага пяра.

**Мікалай Гайдук**
Фота аўтара

(Працяг са стар. 1)




дуэта „Кляпа“. Спецыялісты з журы фестываля ўзнагародзілі „Кляпу“ бронзавым самаварам, але найвышэйшую ацэнку гэты калектыў атрымаў ад гледачоў і журналістаў, якія прызналі ім свае ўзнагароды. І так, беластоцкая „Кляпа“ на фестывалі „выкасіла“ аж тры галоўныя ўзнагароды за адну беларускую „Бабу Еўку“!...

І вось тая самая „Кляпа“ перада мною: два прыстойныя, рослыя і элегантныя юнакі **Лявон Кшыцкі** і **Яўген Сянкевіч.** На пытанне, як яны адчувалі сябе, калі захапляўся імі перапоўнены зялёнагурскі амфітэатр і мільёны гледачоў перад тэлевізарамі, яны толькі адмахваюцца рукамі, як ад назойлівай мухі:

— Ай, лепш не ўспамінайце!.. На рэпетыцыях перад выступленнямі было ў дзесяць разоў лепш, чым на самім канцэрце. Калі мы апынуліся на той велізарнай сцэне, то адчулі сябе, як пацярпеўшыя крушэнне на бязмежным акіяне. Такія бездапаможныя, маленькія, разгубленыя! А тут як на тое самае сталі мы на сцэне ў так званай мёртвай зоне, дзе не маглі пачуць сваіх галасоў, толькі па размераным хлопанні гледачоў здагадваліся, што са сціснутых хваляваннем нашых горлаў дабываюцца нейкія там гукі... Сышоўшы, а дакладней уцёкшы са сцэны, бо ногі самі нас неслі няведама куды, мы былі ўпэўнены, што пацярпелі поўнае крушэнне. Словам: нашу „Кляпу“ спаткала праўдзівая „кляпа“! І ў такім перакананні ўсю ноч прамучыліся. Але ж назаўтра раніцай пабеглі за газетамі, чытаем...

Вядома, перажыванняў нашым таленавітым юнакам хапіла, але ўсё ж у сцэнічным мастацтве яны не такія ўжо бяспомачныя навічкі. Лявон Кшыцкі (гэты шчуплы, з буйнымі вусамі) ужо 18-гадовым вучнем першага класа Мастацкага ліцэя ў Супраслі ўзначаліў школьны інструментальна-вакальны калектыў „Каляровыя“. У ім выконваў творы розных кампазітараў, нярэдка сам пісаў арыгінальныя песенькі. Адна з іх, пра Беласточчыну, заняла другое месца на ваяводскім конкурсе. А з баладамі Акуджавы ён аднойчы дайшоў на ваяводскія эліміныцыі конкурсу савецкай песні. „Каляровыя“ выступалі на розных школьных і грамадскіх урачыстасцях, ездзілі па вяселлях ды забавах, бо хлопцам і свой нейкі грош мець надта ж хацелася. Пасля заканчэння ліцэя ў 1974 г. ён год працаваў у Беластоку, афармляў вітрыны ў крамах, маляваў шыльды. Затым не без цяжкасцей здаў экзамен і паступіў на беластоцкае лялечнае аддзяленне Варшаўскай вышэйшай тэатральнай школы, каб „мець дачыненне з праўдзівай творчасцю, спрабаваць выявіць сябе“, як сам прызнаецца. І тут адразу ён пасябраваў з Яўгенам Сянкевічам. Дружба ў іх завязалася моцная, мужчынская. І не выпадкова.

Я. Сянкевіч, хоць на тры гады маладзейшы ад свайго сябры, меў таксама не малы творчы вопыт. Яшчэ ў 1968 г. 12-гадовым вучнем адной з беластоцкіх пачатковых школ ён пачаў удзельнічаць у кабарэ „Кляпс“, якім кіравала А. Сакалоўская. У праграме былі гумар, сатыра, цікавыя пастаноўкі на актуальныя тэмы, як, напрыклад, перададзеная па Польскай тэлевізіі „Жыві, мой свет“ пра ахову прыроды і асяроддзя чалавека. Пасля заканчэння I агульнаадукацыйнага ліцэя ў Беластоку ён паступіў таксама на лялечнае аддзяленне, бо „хацеў удзельнічаць у культурным жыцці не толькі як пасіўны глядач“, — заўважае ён.

— Ужо будучы на першым курсе „рабілі“ мы лірычныя песенькі пад акампанемент гітараў, — прыгадваюць яны. — Аднак хутка мы пераканаліся, што

# ТРЫБУНА чытачоў

## ГЛУХІЯ ТЭЛЕФОНЫ

Хачу сказаць некалькі слоў аб тэлефонных аўтаматах у горадзе Беластоку. Калі ідзеш вуліцамі горада, здаецца, што тэлефонных аўтаматаў, асабліва ў цэнтры горада, ёсць многа. Але гэта так толькі здаецца. Хопіць спрабаваць пазваніць з іх. Тады пачынаецца твая беганя ад аўтамата да аўтамата. Калі маеш пільную размову, то трэба аббегчы ўвесь горад, або проста махнуць рукой. Лягчэй будзе, калі сядзеш у поўны гарадскі аўтобус і паедзеш да асобы, з якой трэба пагаварыць па тэлефону.

А што ж нас чакае ў тэлефонных будках? Можа быць гэта знішчаны хуліганамі аўтамат, які пужае нас цёмнай дзіркай, можа быць сарваны шнур. Але вось уваходзіш у будку і бачыш, што аўтамат цэлы. Здзіўляешся. Значыць, пазваню. Пачынаеш — і разачараванне: тэлефон глухі. Без ніякага сігналу. У іншы аўтамат цяжка ўкінуць залатоўку. Калі ўрэшце з вялікім намаганнем яе ўвапхнеш, то не атрымаеш назад, хоць размова і не адбылася. Можна было б доўга пісаць пра дзівацтвы беластоцкіх тэлефонных аўтаматаў. Хачу расказаць толькі пра адзін яшчэ выпадак. Вельмі трэба мне было пазваніць. Хадзіў я пасля абеда ад аўтамата да аўтамата і трапіў нарэшце аж на пошту на вуліцы Варшаўскай. А тут — аж пяць аўтаматаў стаіць. Ну, думаю, нарэшце. Аказалася, добрым быў толькі адзін. І да яго была доўгая чарга.

Праблему ўзняў я можа і не так важную жыццёва. Як каму. Але здаецца, што вымагае яна большай увагі ўстановы, якая за гэтыя справы адказвае.

**(м)**

## КНАРАЗОЎСКІ ГУРТОК ГАСПАДЫНЬ

Добра дзейнічае гурток вясковых гаспадынь у Кнаразах. Старшынёй з'яўляецца Вера Красоўская. Пад яе кіраўніцтвам у бягучым годзе кнаразоўскія жанчыны ўзялі на гадоўлю 3 тысячы куранят, 500 гусянят і 300 качанят, а ў мінулыя гады арганізавалі экскурсіі ў Аўгустоў і ў Варшаву.

**Кірылюк Міхал**

## СУХАВОЛЬЦЫ ПРЫГАЖЭЮЦЬ

Сухавольцы — гэта адна з найпрыгажэйшых і найбольш сучасных вёсак не толькі ў Кляшчэлеўскай гміне, але і на ўсёй разлеглай тэрыторыі Гайнаўшчыны. Дамы тут у 80 працэнтах мураваныя, агароджа прыгожая і жыхары вёскі жывуць заможна.

Як мне сказаў начальнік Кляшчэлеўскай гміны, тав. Васіль Міхноўскі, Сухавольцы з'яўляюцца адной з лепшых вёсак у гміне. Нічога дзіўнага, што яны і заваявалі першае месца за 1978 год у конкурсе „Беластоцкая вёска гаспадарная і культурная". Прызнаная ім грашовая ўзнагарода — 30 тыс. злотых заахвоціла сухавальчан да далейшай актыўнай працы. У вёсцы дагэтуль не было тратуараў. А зараз праца ў разгары. І толькі матэрыял дае гміна. Усе іншыя працы выконваюцца грамадскім пачынам. Кошт гэтага мерапрыемства каля 900 тыс. злотых. Ініцыятарам і адначасова важаком усіх грамадскіх пачынаў у Сухавольцах з'яўляецца солтыс вёскі Васіль Гілеўскі. **(ус)**

## Ці ведаеце, што...

...у 1979 годзе ў нашай краіне будзе меліяравана 122 тысячы гектараў сельскагаспадарчых угоддзяў.

...у бягучым годзе ў Польшчы будзе аддадзена ў карыстанне 184 водаправоды і 1266 кіламетраў водаправоднай сеткі.

## Кажуць, што...

...на асфальтаванай дарозе, якая пачынаецца ад Дубіч Царкоўных, каля вёскі Чэхі Арлянскія, Вярсток і далей, немагчыма ехаць, бо асфальт ад жары плавіцца і прыстае да калёс, а хутчэй калёсы прыліпаюць да дарогі. Нешта дрэнна выйшла з тым асфальтам, мабыць, дрэнна быў зроблены.

**П. Д.**

## НОВЫЯ ПАШТОЎКІ

У пачатку чэрвеня ў пунктах продажу ПТТК у Белавежы паявілася новая серыя каляровых паштовак з рознымі аб'ектамі і краявідамі гэтай мясцовасці. Выдала яе ПТТК, а друкаваліся ў Ясле. Здымкі рабіў В. Найдэр. На 18 паштоўках можам убачыць экскурсанцкі дом ПТТК, прыродазнаўчы музей, Інстытут даследавання млекакормячых ПАН, палацовую браму, геаметрычны цэнтр пушчы, гасцініцу „Іва", тарпанападобных конікаў, дом пуцявога абходчыка, унутраны і знешні від царквы, царкоўны дом, будынак пошты і старога інтэрната, Лясны тэхнікум, помнік забітым у „Старой жвіроўні", чыгуначны прыпынак у Чарлёнцы, ланяў і зуброў. Тыраж серыі 32 500 штук, цана адной паштоўкі — 6,50 зл.

Такім чынам экскурсанты ў пачатку сезона атрымалі багаты выбар паштовак. Некаторыя з паказаных аб'ектаў ніколі яшчэ на паштоўках не паяўляліся, а ахвотных на такія паштоўкі было многа.

**П. Байко**

## ВЕТЭРЫНАРНЫ ПУНКТ

У Дубічах Царкоўных заснавалі ветэрынарны пункт. Яго даўно чакалі жыхары нашай і навакольных вёсак. Цяпер не трэба нервавацца, як захварэе жывёла і чакаць, пакуль прыедзе нехта з Гайнаўкі або з Кляшчэляў. А часта бывала так, што такая дапамога прыязджала запозна. Цяпер яна на месцы. Пункт змяшчаецца ў прыватным памяшканні. Абслугоўвае яго лекар ветэрынарыі Збігнеў Матыс. У планах ёсць пабудова новай прасторнай лячэбніцы жывёлы ў Дубічах Царкоўных.

**Мікалай Панфілюк**



## АДГАЛОСКІ

### ДЛЯ АХОВЫ РОДНАЙ ПРЫРОДЫ

З зацікаўленнем чытаю „Запіскі натураліста" на старонках „Нівы". Інж. Б. Ф. Рудкоўскін прышчэплівае любоў да роднай прыроды. Апісвае цікавыя з'явы, аб якіх я чытаю ўпершыню. А што ж можа быць больш блізкім і трапным ад заклiку ахоўваць родную прыроду?! Чакаю наступнага нумара газеты з „Запіскамі натураліста".

**Антаніна Куна, Бельск.**



## ПРЫГОЖЫЯ ЛАРКІ

Ужо пару гадоў назіраюцца ў Белавежы сімптомы растучай дбайнасці аб эстэтыцы месцаў, дзе знаходзяцца турысты і экскурсанты. Вось ад вясны гэтага года прыватныя вытворцы і прадаўцы памятак у Белавежы атрымалі службовы загад, каб пабудаваць замест неэстэтычных будак драўляныя стылёвыя ларкі. І коштам самых вытворцаў яны былі зроблены. Вясной стаяла іх ужо 12 штук, частка — каля стаянкі аўтамабіляў у Белавежы, частка каля паказнога запаведніка зуброў і тарпанападобных конікаў.

Тэкст і фота **П. Байко**

## Колькі каштуе кіёск?

Паважаны таварыш рэдактар! Гуляючы па вуліцах горада Беластока, вы бачыце ўсе яго дасягненні і недахопы. Гэта звычайны працэс. Старыя людзі кажуць, што там, дзе рубаюць дровы, ляцяць і шчэпкі. Але не з усімі недахопамі я магу згадзіцца. Будаваць нешта — значыць мець для гэтай пабудовы прызначэнне. Не можам сказаць: „От, ёсць грошы, будуйма, можа калі каму прыдасца, а як не, і так добра, мы план зрабілі". Так планаваць нельга.

На вока, справа якую хачу ўзняць тут — малая. Але такіх спраў, малых, бывае многа і, сабраўшы іх, маем вялікую справу.

У Беластоку на вуліцы Мазавецкай, насупраць дома № 39 стаіць кіёск, прыстасоблены для продажу марожанага. У гэтым кіёску ёсць нейкая машына, святло і вада. І здаецца такі будынак павінен быць выкарыстаны згодна з прызначэннем. А от жа ж не! Ён, гэты кіёск, стаў ужо гістарычным помнікам, стаіць і нішчэе гэтак пару гадоў без гаспадара, без ніякай карысці. А колькі ж ён каштаваў, пытаю. Другое пытанне: „Ці баліць камусьці галава ад таго, што кіёск нішчыцца?" Не хочацца мне пачуць трэцяга пытання ад установы, якой прыналежыць кіёск і якая, прачытаўшы гэту інфармацыю, можа спытаць: „Чаго ж той Петручук прэ нос не ў свае справы?"

На ўсялякі выпадак я ўжо цяпер адкажу на трэцяе пытанне: бо лічу гэта маёй справай.

**Васіль Петручук**

## Наша пошта

### ПА СЛЯДАХ НЕАПУБЛІКАВАНЫХ МАТЭРЫЯЛАЎ

Да лісту чытача з гміны Сураж аб тым, што няма апекі над магіламі салдатаў у Суражы.

**Адказвае: WOJEWÓDZKIE ZJEDNOCZENIE PRZEDSIĘBIORSTW GOSPODARKI KOMUNALNEJ I MIESZKANIOWEJ W BIAŁYMSTOKU.**

W odpowiedzi na zarzut o braku opieki nad mogiłami w Surażu informuję, że wskazane miejsce nie jest mogiłą i nie figuruje w kartotekach cmentarzy wojennych posiadanych przez tut. Zjednoczenie oraz Zespół Upamiętnienia Ofiar Wojny Ministerstwa AGTiOS.

Należy wnioskować, iż w posiadaniu naszym nie znajdują się protokoły ekshumacyjne, że pochowane tymczasowo zwłoki zostały ekshumowane i przewiezione na cmentarz AR w Bielsku Podlaskim w latach pięćdziesiątych.

W celu dokładnego stwierdzenia faktów tut. Zjednoczenie poczyniło starania o odszukanie dokumentów ekshumacyjnych oraz przeprowadzi rozeznanie w terenie, o którego wynikach powiadomimy Waszą Redakcję oddzielnym pismem.

Z-ca Dyrektora
d/s technicznych
**inż. Jan Kucharczyk**

Да лісту чытача, крытыкуючага працу злеўні малака ў вёсцы Янова.

**Адказвае: WOJEWÓDZKA SPÓŁDZIELNIA MLECZARSKA W BIAŁYMSTOKU. ZAKŁAD MLECZARSKI W HAJNÓWCE.**

W związku ze skargą czytelnika wsi Janowo dotyczącej pracy pracowników punktu skupu mleka, Zakład Mleczarski w Hajnówce na podstawie przeprowadzonych kontroli przez instruktora służby surowcowej ob. Szatyłowicza Jana w dniach 20.05.79 i 31.05.79 oraz przeprowadzonych rozmów z Komitetem Dostawców i dostawcami mleka, wyjaśnia, że zarzuty wymienione w skardze nie potwierdzają się z rzeczywistością, jak również nie stwierdzono nadużycia w dostarczeniu mleka i zawartości tłuszczu, oraz nie stwierdzono fałszowania mleka poprzez rozcieńczenie wodą.

Z-ca Dyrektora
d/s Handlu i Usług
**Witalis Pieskowicz**

## У ДУБІЦКАЙ ШКОЛЕ

Ведаем, што злом патрэбны для выплаўкі сталі. Таму вучні дубіцкай гміннай школы ізноў пастараліся пры збіранні злому. Назбіралі каля 3 тон. Найбольш — з вёсак Дубічы Царкоўныя, Тафілаўцы, Чэхі Арлянскія, Рутка. Былі гэта розныя жалезнякі, якія валяліся на гаспадарскіх панадворках і зусім не былі патрэбныя ў гаспадарцы. А працавітасць вучняў тут прыгадзілася. Яны пасцягвалі гэты злом у кучы, каб пасля лёгка яго можна было забраць машынай.

У гэтай карыснай справе ўдзячнасць належыцца ўсяму настаўніцкаму калектыву школы на чале з яго дырэктарам.

*

Нядаўна быў зроблены школьны агарод у Дубічах Царкоўных. Пасадзілі бульбу. Гною прывезлі бацькі вучняў. Плошча агарода невялікая, 0,35 га, але бульба родзіць добрая. І кожны раз школа прадае яе на нейкіх 10 тысяч злотых. У мінулым годзе тут пасеяны быў авёс, за які школа зарабіла 5600 зл. Як паказвае практыка, варта вырошчваць на школьным агародзе нейкія культуры.

**П. Д.**

## ТУРЫЗМ І КРАЯЗНАЎСТВА НА ВЁСЦЫ

У палове чэрвеня ў Белавежы адбыўся агульнапольскі краязнаўчы сеймік. Арганізаваў яго ваяводскі аддзел ПТТК у Беластоку. Удзел прыняло 30 чалавек (на 70 запрошаных). Тэма сейміку: турызм і краязнаўства ў вясковым асяроддзі. Удзельнікі выслухалі даклады на тэму вясковага турызму ў ваяводствах Люблінскім, Зялёнагурскім і ў гміне Белавежа.

Цікавай была дыскусія. Выступаючыя закранулі многа спраў, з якімі сустракаюцца ў сваёй працы на вёсцы. У час сустрэчы быў намечаны план працы вясковых актывістаў ПТТК на бліжэйшыя гады.

**П. Байко**

## У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

### Да публікацыі „ГАНДАЛЬ КУЛЬГАЕ", „Ніва", № 19 (1211) ад 13.V.1979 г.

**Адказвае: WOJEWÓDZKI ZWIĄZEK SPÓŁDZIELNI ROLNICZYCH W BIAŁYMSTOKU.**

W nawiązaniu do publikacji korespondenta „Niwy" z terenu gminy Dubicze Cerkiewne pt. „Handel kuleje", gdzie autor skarży się, że w sklepach wiejskich stwierdzane są braki artykułów spożywczych (drożdże i ryż) oraz artykułów elektrotechnicznych (kontakty, baterie itp.) WZSR — Zakład Obrotu Artykułami Przemysłowymi i Spożywczymi w Białymstoku, wyjaśnia, że po wszechstronnym przeanalizowaniu zarzutów pod adresem handlu na terenie działalności Zakładu Gospodarczego w Hajnówce stwierdza: niedociągnięcia powyższe faktycznie miały miejsce i wynikły, jeżeli chodzi o artykuły spożywcze, z nieterminowej realizacji tych artykułów z hurtowni w Hajnówce. Jeśli chodzi o artykuły elektrotechniczne, te braki wystąpiły z powodu spóźnionych dostaw tych artykułów z przemysłu.

W chwili obecnej, jak zapewniono nas w Zakładzie Gospodarczym w Hajnówce, artykuły powyższe zostały dostarczone i znajdują się w sprzedaży.

Za zaistniałe niedociągnięcia przepraszamy.

Zastępca dyrektora
**Anna Rudnik**

### Да публікацыі „БЫДЛЯЧЫ ВАГОН", „Ніва", № 16 (1208) ад 22.IV.1979 г.

**Адказвае: PKP WAGONOWNIA W BIAŁYMSTOKU.**

W odpowiedzi na zamieszczoną notatkę pt. „Bydlęcy wagon", DRKP B-stok wyjaśnia:

Pociąg, o którym pisze podróżny, jest składem pociągu stacji macierzystej Hajnówka. W dniu 26.02.1979 r. składał się z 1 wagonu ogrzewczego nr 99-270-64-3, dwóch wagonów 1/2 klasy nr nr 38-18019-2 naprawa rewizyjna w dn. 17.01.79 r. w ZNTK Opole 39-20042-1 naprawa średnia 11.12.1978 r. ZNTK Nowy Sącz i wagonu 2 klasy nr 28-21146-1 naprawa rewizyjna w dn. 13.01.1979 r. ZNTK Opole.

Zgodnie z rozkładem jazdy w/wym. pociąg winien składać się z wagonów piętrowych serii Bipa. Jednak z uwagi na trudną sytuację atmosferyczną (ogłoszoną klęską żywiołową) i wycofanie szeregu pociągów, do omawianego pociągu zostały włączone wagony zastępcze.

Wagony te były w pełni sprawne technicznie — po dokonanych naprawach okresowych w Zakładach Naprawczych, i nadawały się do przewozu pasażerów.

Konstrukcja i wygląd tych wagonów są rzeczywiście przestarzałe, wagony są budowane przed 1939 r. Jednak z uwagi na występujące braki taboru osobowego na terenie tut. DRKP są wykorzystywane w eksploatacji. Wycofanie ich z eksploatacji nastąpi z chwilą otrzymania wagonów o nowszych rozwiązaniach konstrukcyjnych.

Posunięcie to było spowodowane koniecznością zapewnienia przewozu podróżnych na opisanej w notatce trasie i przy istniejących trudnych warunkach atmosferycznych.

Naczelnik
**inż. Kazimierz Krysiewicz**

# ПАМЯРКОЎНЫ МУЖ

З'явіўся ў мяне муж. Муж як муж. Звычайны. Але я вам скажу, прыбавілася разам з ім розных клопатаў! Самае ж горшае, мабыць, тое, што прынёс ён з сабою ў сумеснае жыццё неабдымныя запасы нікаціну. Гэты яд цвёрда ўвайшоў у наш быт, як і пастаянныя размовы, буйныя і дробныя сямейныя клопаты.

І вось нарадзілася ў мяне задума: адвучыць мужа курыць. І пачала я з таго, што не дазваляла яму наведваць тытунёвыя магазіны. Шмат разоў я хадзіла разам з ім, прымушала яго насіць гаспадарчую сумку, вадзіла ля харчовых магазінаў. Розныя прысмакі вабілі вока.

— Згодны, — сказаў аднойчы мой любы. — Бяры ледзяны. Буду адвучацца курыць.

Прыгожы пачак цукерак здаўся мне збавеннем. Але, каб яшчэ больш падтрымаць дарагога чалавека ў цяжкую хвіліну, я нават пайшла на асабістую ініцыятыву.

— Куплю табе яблычак. Гэта, так сказаць, для падтрымкі.

І пачалося дамашняе лячэнне. Я здзіўлялася бязвольнасці мужа і верыла, пакуль не заўважыла новых звычак яго. Ён старанна выконваў мой загад, тым часам не забываючы і сваю старую звычку. Здарылася нечаканае. Чаго я дамаглася? Цяпер ён „прымае" ледзянец, каштуе ружовы сакавіты яблык і патаемна са смакам зацягваецца кожны раз апошняй папяросай.

**Надзея Кудравец**



MADE IN ZADRYPANKA

...З усяго, што ён стварыў, найбольш запомніўся шум вакол яго імя.





## ГУМАР З БАРАДОЙ

### МАРА

Калі памёр бацька, Бу Адам плакаў, прыгаворваючы:

— О, мой бедны бацька, у суконных штанах!

— Паслухай, — напомнілі яму, — твой бацька іх ніколі не меў.

— Так, — адказаў Бу Адам, — але ён так марыў пра іх!

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

— Скажыце, сіньёра, колькі каштуе гэты парасон?

— Дзесяць тысяч лір.

— А танней ёсць што-небудзь?

— Дождж.

*

У паліцыі:

— Пане камісар, я згубіў бумажнік.

— Ну што ж, напішыце заяву.

— Баюся, не магу...

— Ды чаму ж?

— Бумажнік знайшоў мой унук...

— Дык тады ў чым справа?

— Трэба знайсці ўнука.

*

Размаўляюць некалькі шатландцаў:

— А цікава, хто на самай справе выдумляе ўсе гэтыя дурныя анекдоты пра нас, шатландцаў?

Пытанне паставіла ўсіх у тупік. Нехта прапанаваў пазваніць у рэдакцыю гарадской газеты і даведацца там. У той жа момант раздаўся чыйсьці голас:

— А хто будзе плаціць за гэту размову па тэлефону?

## МІНІВЕРШЫ

### ЗАСЯДАЛА

Ён надта здатны засядаць:
Штодня паседжанні, нарады,
На іх прамовы і даклады —
Няма калі і працаваць.
Плануе, як з пяціхвілінутак
Зрабіць планёркі на паўсуткі.

### ПАПЕРАПСАВАЛЬШЧЫК

Тып рэвізора, хоць і рэдкі,
Ды сустракаецца ў наш час:
— Пра дзейнасць пра сваю
даведкі
Зрабіце — я праверу вас!..
Свой акт па ліпавых паперках
Складзе — і скончана праверка.

### ВАЛАКІТЧЫК

З заявай прыйдзеш — не адкажа:
„Прыняў бы, ды сягоння сход...
Праз дзень заходзьце — справу
ўвяжам..."
Праз дзень, праз тыдзень — той
жа ход.
Заяву марынуе з год,
Пакуль яна ў архіў не ляжа.

**Базыль Хізавец**



*Музыкант рыбака бачыць здалёк.*

### ПАДЛІЧЫЎ

Парфен да Кастуся:

— Мусіш зразумець, што кожная чарка гарэлкі скарачае жыццё на гадзіну.

— Ведаю, — адказвае Кастусь, — я падлічыў, што ўжо пяць год не жыву.

### СІНІЯ ПТУШАЧКІ

Дзяўчынка Галінка штосьці старанна малюе на паперы. Падыходзіць бацька і пытае:

— Што ты тут намалявала?

— Птушачак.

— А чаму ж яны ўсе сінія?

— Дык гэта ж сінічкі!

### СІТУАЦЫЯ

Едуць двое п'яных у машыне.

— Як пераедзем мост, паварочвай направа, — кажа адзін.

— А хіба не ты за рулём? — здзіўляецца другі.

### ПРЫЧЫНА

— Ці разважаў ты калі-небудзь над тым, што ў рэшце рэшт павінен ажаніцца?

— Часта. Калі б не разважаў, даўно ўжо б ажаніўся.



*Без слоў.*

### ПЫТАННЕ

Як смяяцца ад душы, калі яна ўцякла ў пяткі?

### З „Весніка Задрыпоніі"

### МУКІ ТВОРЧАСЦІ

Прадстаўляючы свайго любімага вучня, прафесар Балабан сказаў:

— І так, у канцэрце Чайкоўскага для скрыпкі з аркестрам саліруе наш віртуоз Янка Смык. І вы ўсе адзначыце, з якім каласальным намаганнем ён выконвае самыя лёгкія яго пасажы.



*Чаго ў спорце не бывае!*

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе дзяўчат з Парцава змяшчаем песню

### ZŁOTY PIERŚCIONEK

**Słowa: Roman Sadowski**
**Muzyka: Jerzy Wasowski**

Chodził kiedyś kataryniarz
Nosił na plecach słowików chór
I papugę ze złotym dziobem
I pierścionków sznur.
Nad warszawską szarą Wisłą
Za jeden grosik, za dwa, lub trzy
Modry Dunaj w takt walca płynął
I papuga ciągnęła mi.

Refren:
Złoty pierścionek, złoty pierścionek na szczęście.
Z niebieskim oczkiem, z błękitnym niebem na szczęście.
Złoty pierścionek kataryniarza jedyny,
Na moje szczęście, na szczęście każdej dziewczyny.

Dzisiaj tamten kataryniarz
Nosi na plecach już skrzynię lat
I we włosach pierścionki srebrne,
Które zwija wiatr.
Odleciała już papuga
I mój pierścionek już dawno znikł,
Więc powiedzcie, gdzie mam go szukać,
Kto go jeszcze odnajdzie mi.

Refren:
Złoty pierścionek, złoty pierścionek na szczęście.
Z niebieskim oczkiem, z błękitnym oczkiem na szczęście.
Złoty pierścionek taki miedziany, dziecinny.
Za ten pierścionek oddałabym dziś sto innych.

### ВЫРАШЫЛІ

Муж і жонка спрачаюцца наконт таго, хто напісаў п'есы: Шэкспір ці Байран?

Жонка кажа:

— Калі я памру і траплю ў рай, то я абавязкова спытаю ў Шэкспіра, ці ён сам пісаў гэтыя п'есы.

— Ну, а калі ён не трапіў у рай, што тады? — пытаецца муж?

— Тады ты ў яго спытаеш, дарагі...

### МІКОЛКА

Настаўнік пытае вучня:

— Міколка, чаму буслы адлятаюць на зіму ў цёплыя краіны?

— Таму што людзі там таксама хочуць мець дзяцей.



### НЕВЕРАГОДНАЕ

Летняя гісторыя з друку (заходняга):

Едзе па дарозе малады чалавек. Яму „галасуе" дзяўчына: супыніцеся. Ён, вядома ж, падвёз прыгажуню і з першага погляду закахаўся. Запрасіў яе на абед, увесь вечар яны правялі разам. Але пасля ён ніколі не сустрэўся з ёю, бо калі праз некалькі дзён паехаў да яе па дадзенаму ёю адрасу, яму там сказалі, што тая дзяўчына загінула ў выніку аўтамабільнай катастрофы... некалькі гадоў назад.

### ТОЛЬКІ АДЗІН НЕДАХОП

Пачынаючы аўтар прынёс А. Астроўскаму п'есу і папрасіў прачытаць яе.

— У вашай п'есе адзін недахоп, — сказаў драматург.

— Толькі адзін? — абрадаваўся аўтар. — Які ж, скажыце, калі ласка?

— Вельмі доўгая.

— Што ж вы параіце мне зрабіць?

— А вось што: спачатку адкіньце першую палавіну.

— А тады?

— А тады і другую...

### САСТУПАЎ ДАРОГУ ДУРНЯМ

Джанатан Свіфт прагульваўся па вуліцы. Раптам нейкі нахабны малады чалавек спыніўся перад ім і сказаў:

— Я ніколі не саступаю дарогу дурням!

— А я заўсёды ахвотна гэта раблю, — адказаў аўтар „Падарожжа Гулівера", адышоўшы ўбок.



**Цэнь ніколі не падае на тых, хто ў ім знаходзіцца.**